Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



## КАМУНІКАТ Но.3 (57 ад 1990), Сакавік, 2001

### НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ПАДЗЕІ XX СТАГОДЗЬДЗЯ :

### АБВЕШЧАНЬНЕ АКТАМ 25 САКАВІКА, 1918 ГОДУ ДЗЯРЖАЎНАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Нам можа нехта запярэчыць, кажучы, што найважнейшынмі для Беларусі падзеямі стагодзьдзя былі падзеі 1990 і 1991 гадоў - **утварэньне з БССР суверэннае Рэспублікі Беларусь.**

Але-ж у тым то й справа, што калі-б ня было **Акту 25 Сакавіка - абвешчаньня дзяжаўнае незалежнасьці БНР,** ня было бы й БССР, а была бы толькі «Северно-западняя» вобласьць РСФР. А з вобласьці Расеі ані як не магла-бы быць створана Рэспубліка Беларусь. Гэта ўсім ясна.

**Таму-ж мы й лічым, што найважнейшымі падзеямі стагодзьдзя для Беларусі, ёсьць стварэньне АКТУ 25 САКАВІКА, 1918 году, якім Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выконваючы волю Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году, а цераз яго - волю беларускага народу, абвесьціла Беларусь вольнай і незалежнай дэмакратычнай рэспублікай.**

Гэтая вялікая падзея пачынае ў гісторыі вызволенчага змаганьня беларусклага народу **новы этап - этап незалежніцкі.**

А сам дзень 25 Сакавіка зьяўляецца агульнапрынятым і заўсёды ўрачыста адзначаным нацыянальным сьвятам беларускага народу.

### «АКТЫ СУВЭРЭННАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

....Адзначаючы й у гэтын годзе » 83-я ўгодкі «вялікіх сакавіковых падзеяў, хочэм вярнуцца думкай» 83 гды назад «і адсьвяжыць у нашай памяці хоць найважнейшыя іх зваротныя мамэнты й дзяржаўныя-праўныя акты, на моцы якіх дагэтуль паняволены, прыгнечаны і паніжаны беларускі народ задакумэнтаваў сваю непахісную волю жыць вольным ад нікога незалежным дзяржаўным жыцьцём у собскай Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Гэтая ўсенародная воля ўпершыню была выяўленая Першым Усебеларускім Кангрэсам, скліканым ў Менску 18-31 сьнежаня 1917 году. Кангрэс, што складаўся з 1,872 дэлегатаў, зь якіх 1,767 мела права пастанаўляючага, а 705 дарадчага



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

голасу, выбраных дэмакратычным спосабам Беларускім Народам, быў юрыдычна законным і аўтарытэтным беларыускім нацыянальным прадстаўніцтвам. **Гэты Кангрэс сфармулаваў упяршыню прынцып беларускае дзяржаўнасьці, выказваючыся за дзяржаўную сувэрэннасьць нашага краю ў форме дэмакратычнае Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР).**

Кангрэс ня мог давесьці сваёй справы да канца, бо быў 30 сьнежня разагнаны бальшавіцкімі збройнымі адддзеламі. Нягледзячы, аднак, на гэта, Кангрэс зьбіраецца назаўтра 31 сьнежня ў Менскім чыгуначным дэпо й пад аховаю чыгуначнікаў перадае свае паўнамоцтвы аж да чзсу вольных выбараў у Беларусі абранай раней сваёй Радзе, якая тут-жа выбрала й свой Выканаўчы Камітэт. Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу павёў у далейшым інтэнсыўную працу й змаганьне над рэалізацыяй праклямаванай Кангрэсам беларускай дзяржаўнасьці.

*

Першыя паўтары месяцы, 1918 году, ня гледзячы на бальшавіцкае перасьледаваньне, Выканаўчы Камітэт вядзе ў падзямельлі вельмі ажыўленую дзейнасьць і мабілізуе ўсе нацыянальныя сілы дзеля захопу ўлады ў свае рукі. Пасьля ўцёкаў з турмы ўвязьненых актывістых Беларускай Вайсковай Рады К. Езавітава, Я. Мамонькі й В. Захаркі й іншых адраз-ж адбываецца ў Менску збройнае пераняцьце ўлады 19 і 20 лютага, а камэндантам сталіцы Рэспубікі - Менскыу назначаецца К. Езавітаў. Гэтая гістарычная падзея й была задакумэнтаваная ў Першай Устаўной Грамаце, выдадзенай Выканаўчым Камітэтам Рады Усебеларускага Кангрэсу, якую тут падаём поўнасьцью:

**«Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаім перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ува ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці - на нацыянакэльна-пэрсанальную аўтаномію. Правы нацыі павінны знайсьці сваё зьдзейсьненьне шляхам ськлікаsuccessive ськліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму. Але й да ськліканьня Ўстаноўчага Сойму уся ўлада на Беларусі павінна належыць тым народам, якія на ёй жывуць. Выканаўчы Камітэт Першага Усебеларусклага Зьезду, папоўнены прадстаўнікасмі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў , зьдзейсьняюы мэты Зьзду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй , Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага й прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага, ня лічачыся з нацыянальнасьцьцю, вызнаньнем і родам. Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону й зацьверджаньне заваяваньняў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьніваць створаны намі Нардоны Сакратарыят Беларусі, які ад гэтага часу пачаў выконваць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны пасьля.**

**Дадзена ў Менску-Беларускім**

21 (8) лютага 19018 г.
Выканаўы Камітэт
Рады Ўсебеларускага Зьезду»

Гэткім чынам, згодна пастановы Першай Устаўной Граматры, быў пакліканы першы беларускі ўрад, званы тады Народным Сакратарыятам Беларусі, які пазьней пад уплывам заходне-эўрапэйскай практыкі, стаў называцца Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі.

*

Пад уплывам далейшых падзеяў у нашым краі й што раз шырэйшай дзейнасьці беларускіх дзяржаўніцкіх ворганаў і задзіночанага вакол іх беларускага нацыянальнага актыву рэалізацыя нашай дзяржаўнасьці шпаркімі крокамі йдзе наперад. Гэтак 9 сакавіка выдаецца ў Менску Другая Устаўная Грамата, якая дае першыя асновы дзяржаўнае канстытуцыі Беларускае Народнае Рэспублікі, як поўнасьцьцю незалежнае дэмакратычнае дзяржавы заходне-эўрапэйскага тыпу. Падаем поўны аўтэнтычны тэкст гэтае Граматы:

«У часе сусьветнае вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы й аслабляе другія, абудзілася Берларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі зноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве й будзе жыць. Вялікі Народны Збор Усебеларускі Зьезд 15-17 сьнежня 1917 г., дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду й бароначы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючыу Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устрої Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і нацыянальнасьцяў.

1. - Беларусь у рубяжох рассяленьня й лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.

2. - Аснаўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, ськлікаы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага й прапарцыянальнага выбарчага права , не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.

3. - Да часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4. - Спаўняючая й адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радай Зьезду і перад ёю трымае адказ.

5.. - У рубяжох Беларуске Нардонае Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня.

6. - У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўсе народы маюць

**права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.**

**7. - У робяжох Беларускае Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямла перадаецца без выкупу тым, хто самні на ёй працуюць. Лясы, вазёры й нутро зямлі абвяшчаецца ўласнасьцьцю Беларускае Народнае Рэспублікі.**

**8. - У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень.**

**Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларускае Народнае Рэспублікі, мы Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду , абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцьця ў Рюспубліцы, сьцерагчы інтарэсы ўсіх грамадзян і народаў Рэспублікі й захаваць правы й вольнасьці працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў , каб склікаць у найбліжэйшым часе Устаноўчы Сойм Беларусі.**

**Усіх верных сыноў Беларускае замлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказной нашай працы.**

**Спаўняючы Камітэт**
**Рады 1-га Усебеларускага Зьезду.**
**Выдана ў Менску-Беларускім**
**9 сакавіка 1918 году»**

*

19 сакавіка 1918 г. Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду абвяшчаецца **Радай Беларускай Народнай Рэспублікі.** Развой далейшых падзеяў прыскорыў акт поўнага абвяшчэньня дзяржаўнай сувэрэннасьці Беларусі й пераняцьце лёсу ўсяго Беларускага Народу ў свае собскія рукі. Рабячы без ніякае ўвагі на нацыянальныя інтарэсы Беларускага Народу, Берасьцейскі мір прымусіў беларускія дзяржаўніцкія ворганы да больш станоўчага й шыбкага дзеяньня. Гэты мір, у выпадку ажыцьцяўленьня ягоных пастановаў, наносіў сьмяротны ўдар ня толькі сувэрэннасьці Беларусі, але й ейнай непадзельнасьці. Ён дзяліў жывое цела нашае Бацькаўшчыны на тры часьці: землі на ўсход ад лініі Дзьвінск-Сьвянцяны-Ліда-Пружана меліся адыйсьці да Расеі; на захад ад гэтае лініі - да Летувы; ладная часьць паўдзённай Горадзеншчыны, Меншчыны, Магіулёўшчыны, Чарнігаўшыны (Гомельшчына) - да Украіны.

І вось 24 сакавіка 1918 году, а 8-ай гадзіне ўвечары, у будынку Рады БНР на Захараўскай (цяпер Савецкай) вуліцы Менску адбылося гістарычнае паседжаньне Рады БНР супольна з дэлегацыяй Віленскай Беларускай Рады. На парадку дня паседжаньня стаяло толькі адно пытаньне: **абвешчаньне незалежнасьці Беларусі.** Гэтае паседжанне, якое трывала да 8-ае гадзіны раньніцы, было ўкаранаванае Актам 25 Сакавіка, задакуымэнтаваным Трэцяй Устаўной Граматай. На паседжаньні была прынятая ляканічная, але як-жа зьмястоўная пастанова: **«Рада Белрускае Народнае Рэспублікі абвяшчае Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай і выдае аб гэтым устаўную грамату».**

Адзін навочны сьведка наступнымі славамі апісвае заканчэньне гэтага гістарычнага паседжаньня:

«І ў гэты ўрачысты мамэнт, калі была прынятая рэзалюцыя й была абвешчаная Незалежная Беларусклая Дзяржава, ў залю ўпадалі першуя праменьні раньняга сонца. Яно аблівала вясьняным ясным сьвятлом зялю, ў якой, як на Вялікдзень, у часе хрыстосаваньня, усе радныя абыймаліся й цалаваліся ад радасьці. І ў гэты-ж момант узыйшло Сонца Свабоды над нашай шматпакутнай Бацькаўшчынай....» (М. Ш. «Незабыўны Дзень, «Шляхам Жыцьця» , Но.3. (15) за 1947г.)

Поўны тэкст Трэцяй Устаўной Граматы - тэкст Акрту 25 Сакавіка наступны:

**«Год назад народы Беларусі, разам з наропдамі Расеі, ськінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыцісныў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады й вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны й незалежны край.**

**Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.**

**На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісваць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы яго на часткі. На моцы гэтага Урад Беларускае Народнае Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім пераглядзіць тую частку Берасьцейскага трактату, якая датычыць да Беларусі й падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяжавамі.**

**Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве й мае лічбовую перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Віленшчыны і Гродзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны й сумежных часцяў суседніх губерняў, заселеных беларусамі.**

**БНР зацьвярджае ўсе тыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўной Граматай ад 9 сакавіка, 1918 году.**

**Абвяшчаючы аб незалежнасьці БНР, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітучна-дзяжаўныя ідэалы.**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дадзена ў Менску-Беларускім

**25 сакавіка, 1918 году.»**

Ад гэтага часу й па сяньняшні дзень Акт 25 Сакавіка зьяўляецца найвялікшай нацыянальнай падзеяй у гісторыі нацыянальна-вызвольнага змаганьня Беларускага Народу. Незалежніцкія ідэі гэтага Акту - ідэі дзяржаўнай сувэрэннасьці Беларусі становяцца ад гэтага часу найглыбейшым зьместам нацыянальнага жыцьця й наймагутнейшым рухаючым маторам вызвольнага змаганьня Беларускага Народу. За гэтыя ідэі кідаліся ў бой з пераважаючай фізычнай сілай расейскага бальшавізму гераічныя Слуцкія паўстанцы й ішлі «паміраць, каб жыла Бацькаўшчына», за іх ішлі на сьмерць, страшныя мукі й выгнаньне тысячы змагароў за будучыню Беларусі й найлепшых сыноў беларукага народу.....

Гэтае змаганьне й акты масавае самаахвярнасьці Беларускага Народу ня спыняццада таго часу, пакуль ідэя 25 Сакавіка ня станецца рэальным фактам і не ўкаранue ўсіх надлюдзкіх высілкаў і вялізарных ахвяраў Беларускага Народу. Мы верым моцна, што гэты час надыйдзе ўжо хутка!

**Язэп Каранеўскі** («Бацькаўшчына», нр. 11-12 (90-91), за 1952) »

---

БНР была прызнаная «дэ юрэ» радам заходніх дзяржаў і ў некаторых іх сталіцах былі ўстаноўлены беларускія консуляты. Нажаль новая незалежная дзяржава - БНР - доўга не магла ўтрынмацца. 10-га сьнежня, 1918 году бальшавіцкая Чырвоная армія заняла Менск. Рада й Урад БНР вымушаны былі эміграваць. Менскі бальшавіцкі ваенна-рэвалюцыйны камітэт таго-ж 10-га сьнежня выдаў загад «аб разьвязаньні ўраду беларускіх абшарнікаў і капіталістаў «Беларускай рады», і арышце ейных сяброў.

Толкі-ж падобным загадам не магчыма было забіць у народзе разбуджаную нацыянальную сьведамасьць, ды волю быць гаспадаром у сваім собскім краі.

Каб успакоіць гэты нацыянальны ўздым, Рэўком разумее, што абы якіх сродкаў ня хопіць, і таму дакладае ў Смаленск сваёй уладзе Абласномму камітэту аб неабходнасьці стварэньня «савецкае беларускае дзяржаўнасьці».

«Нажаль», як запісана ў дакумэнце - «Абком адарваны ад пытаньня беларускай рэчаіснасьці, адкінуў тады прапанову самавызначэньня Беларусі». Ды ўсё-ж **ЦК Расейскай Камуністычнай Партыі (б) і савецкі урад вымушаны былі стварыць БССР на мейсца БНР,** што сталася на зьезьдзе Кам. Партыі 1-га студзеня, 1919 году ў Смакленску. Ды паміма гэтага ўжо ў лютым бальшавікі зачыняюць урадавы ворган у беларускай мове «Весткі» і зачыняюць беларускую газэту «Дзяньніцы», выдаваную Жылуновічам у Маскве. Такім чынам на ўсёй савецкай тэрыторыі не застаецца больш друкаванага беларускага слова.

Пасьля-ж падпісаньня Рыжскага трактату, у якім Заходнюю Беларусь бальшавікі аддалі палякам, а на Усходняй 1-га жніўня 1920 году другі раз абвесьцілі БССР, але гэтым разам толькі на тэрыторыі 6-ці паветаў былое Менскае губерні - беларускі народ адказаў на гэта цэлай хваляй збройных паўстаньняў.

Паўстаньні выклікаюць тэрор. Тэрор адбіваецца няпрыемным для Масквы рэхам . Урад БНР сваімі пратэстамі й мэмарандамі да ўрадаў Захаду інфармуе аб іх. Ды й у саветах цяжкое палітыхнае й эканамічнае палажэньне змушае Крэмль ісьць на ўступкі. Уводзіцца НЭП, даецца крыху лягчэй дыхаць і беларусам.

У 1924 годзе вяртаецца ў склад БССР Віцебшчыну, Магілёўшчыну й частку Смаленшчыны. Разбудоўваецца беларускае школьніцтва зь беларускім унівэрсытэтам у Менску. Амаль ува ўсіх установвах БССР, як урадавая, была ўведзеная беларуская мова.

Толькі-ж ня доўга трывала беларусізацыя. Сталінскі бальшавізм зь лютым імпэтам кінуўся нішчыць усё беларускае, а зь ім і саміх беларусаў. Як зь нейкай пякельнай заканамернасьцьцю, пачаўшы ад 1929-30 году, кожныя тры гады вяртаецца ўзмоцненая хваля тэрору, званая чыстакамі, гэта знача масавыя арышты, расстрэлы, вывазы. У 30-м, 33-м, і найстрашнейшая ў 36-37-м, яжоўская чыстка. Гэта канчальна вынішчыла - вычысьціла ня толькі нацыянал-дэмакратаў (нацдэмаў), але й нацыянал-бальшавікоў, тых, што пайшлі супраць нашай беларускай незалежнасьці, бо бачылі шчасьце Беларусі, у краіне саветаў. Зьнішчаны ці высланы былі ня толькі сотні беларускай інтэлігюнцыі: вучоныя, прафэсары, настаўнікі, пісьменьнікі, студэнцкая моладзь, але й 2 мільёны перадавога сялянства.

Ды беларускі народ, як дрэва. Паабразай галіны, а яно на весну выпусьціць на іх мейсца сотні новых парасткаў, якія з новай сілай будуць расьці й змагацца за права на жыцьцё. Задушаны беларускі рух на Усходняй Беларусі, разьвіваўся, хоць далёка не на волі, у Заходняй.

Не пасьпелі бальшавікі заламацца й адступіць зь Беларусі ў часе Другой Сусьветнай вайны, як беларускі народ ізноў узварухнуўся нацыянальным уздымам і рабіў усё, што ў цяжкіх абставінах пад немцамі было магчыма.

Беларуская эміграцыя дала пачатак беларускай нацыанальнай вызвольнай дзейнасьці па ўсіх кутках сьвету, куды толькі эмігранцкі кон яе не занёс .

І найважнейшым асягненьнем беларускай эміграцыі ёсьць тое, што яна захавала дзейнай Раду й Урад БНР, якая Актам 25 Сакавіка, абвесьціла незаленасьць Беларускай Народнай Рэспублікі - БНР.

Абвешчаньне Актам 25 Сакавіка Дзяржаўнай Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі мае для нас калясльнае значэньне:

1. Актама 25 Сакавіка беларускі народ заявіў усяму сьвету сваю волю быць незалежным і запачаткаваў у беларускім руху **новы незалежніцкі этап.**

2. З Актам 25 Сакавіка мусілі лічыцца й бальшавікі, калі ў 1919 годзе мусілі стварыць, хай сабе й фікцыйную, БССР. Каб ня было БНР, ня было бы й БССС, а была бы толькі паўночна-заходняя вобласьць РСФР.

3. Каб ня было БНР, ня было бы й прадстаўніцтва Беларусі ў Задзініочаных Нацыях.

4. Каб ня было БНР, ня было бы й Рэспублікі Беларусь.

Таму цяглясьць існаваньня й дзейнасьці Рады й Ураду БНР у Егзылі ёсьць вельмі важная, бо яна прыпамінае сьвету, што беларускі народ меў дзяржаўную незалежнасьць і ніколі яе ня выначацца, будзе змагацца, аж пакуль яе не здабудзе.

Значэньне існаваньня Рады БНР разумелі й бальшавікі. Не дарма-ж яны так імкнуліся зьліквідаваць Раду БНР. Яны бачылі ў ёй для сябе небясьпеку.

І як быўшы Старшыня Рады БНР др. В.інцэнт Жук-Грышкевіч казаў:

«Бальшавіцкая прапаганда цьвердзіць, што Рада БНР зьліквідавалася, калі ў 1925 годзе на г. зв. Бэрлінсксй канфэрэнцвыі тры БНР-аўскія міністры Цьвікевіч,

Пракулевіч і Заяц зракліся БНР, прызналі БССР й выехалі ў Менск. Супярэчаць гэтай ілжы наступныя факты:

1. Дзеля адыходу трох міністраў ня можа ліквідавацца ўсё дзяржаўнае кіраўніцтва, тым больш, што ўспомненыя тры міністры падаліся ў дэмісію перад Бэрлінскай канфэрэнцыяй.

2. Нават калі ўвесь урад адыходзіць, дзяржаўнае кіраўніцтва не ліквідуецца, а на мейсца адыйшоўшага ўраду Прэзыдэнт паклікае новы урад. У нашым выпадку, пасьля выезду трох міністраў у БССР, у Празе застаўся Старшыня Рады БНР Пётра Крэчэўскі з сваім заступнікам і некалькімі раднымі, які перад сьмерцьцю перадаў свае паўнамоцтвы свайму заступніку Васілю Захарку, а Старшыня Рады БНР В. Захарка перадаў перад сьмерцьцю свае паўнамоцтвы інж. М. Абрамчыку, які пасьля вайны аднавіў Раду БНР і яна існуе па сяньняшні дзень.

Вельмі важна, каб Рада БНР існавала ў вольным сьвеце й надалей ды вяла барацьбу за вызваленьне Беларусі, бо фактам свайго існаваньня й барацьбы за Беларусь яна рэпрэзэнтуе праўную цягласьць незалежнай дзяржаўнасьці Беларусі, што вынікла з волі народу, і цягласьць змаганьня за ажыцьцяўленьне гэтай волі.»

Пасьля распаду СССР, у 1990 годзе была абвешчана сувэрэннасьць Рэспублікі Беларусь. Стала разьвівацца беларускае нацыянальнае жыцьцё. Вярнулася беларуская нацыянальная сымболіка.

Ды як і ў 1918 годзе, так і цяпер ворагі ня сьпяць. Ізноў у Беларусі варожая ўлада, нішчыцца ўсё беларускае, рыхтуецца ліквідацыя Рэспублікі Беларусь. Ізноў беларускі народ мусіць ісьці ў няроўны бой за правы на жыцьцё. У гэтым баі - змаганьні за ўтрыманьне незалежнасьці Беларусі - павінен узяць удзел кожны чэсны беларус - кожны з нас. Мы павінны мабілізаваць свае духовыя сілы, каб магчы, для дабра беларускае вызвольнае справы, ахвяроўваць сабою: сваімі выгадамі, амбіцыямі, самалюбствам; каб, магчы, як калісь жаўнеры БНР, жыць і йсьці за лёзумгамі: «Няхай жыве Вольная Беларусь!». Толькі вера, любоў і пашана да ўсяго роднага-беларускага, роднае мовы, ды грамадзкая актыўнасьць усіх белсарусаў можа забясьпечыць Бацькаўшчыне незалежнасьць. Янка Купала казаў: **«Не загіне край забраны, пакуль будуць людзі !»** Таму важна, каб кожны з нас належаў да тых людзей, якія жывуць і працуюць, каб

**ЖЫЛА БЕЛАРУСЬ !**

---

Ад імя Выканаўчага Камітэту Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады вітаю ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі й усіх беларусаў сьвету з найвялікшым беларускім нацыянальным сьвятам - днём 25 САКАВІКА.

Жадаю вам добрага здароў'я, духовай сілы, веры ў сябе, Беларусь, вытрываласьці ў няроўным змаганьні за зьдзейсьненьне ідэалаў 25 САКАВІКА - Дзяржаўнае Незалежнасьці Беларусі. Спары нам у гэтым змаганьні, Божа!

Жыве Беларусь!

---

САКАВІК, 2001
БЭРЫ, ТАРОНТА

ДР. РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ
СТАРШЫНЯ